# НА СМЕХ

# Аўцюкоўскія анекдоты

Уладзімір ЛІПСКІ

**Мае шаноўныя чытачы!**

**На вас, як і на мяне, апошнім часам абрынуўся вулкан пякучай крыўды.**

**Горка, што жылі ў эпоху хлусні.**

**Страшна, што зрабіліся заложнікамі Чарнобыля.**

**Крыўдна, што сталі багатымі на гарбы і хваробы.**

**Балюча, што нашы дзеці губляюць надзею...**

**Але ж, мае любыя, давайце прызнаем яшчэ адну праўду: каб не смяяліся, не цешыліся, то даўно б павесіліся.**

**Смех — дар Божы.**

**Адзін смяецца — як парася свянцонае.**

**Іншы — як з гары едучы.**

**Смяецца вада з балота, што яно зыбаецца.**

**Смяецца кацёл з гаршка, што ён чорны.**

**Смяецца лысы з пляшывага.**

**Смех не арэх — зуб не лупіць. Пасмяяцца — не пакалечыць.**

**Смех, аднак, можа да плачу давесці. Бывае смех скрозь слёзы. Смяецца той, каму няймецца, а каму баліць, той за гарачы камень бярэцца.**

**Вось і я, калі ехаў да аўцюкоўцаў, захапіў вялікі мех для смеху. А сабраў туды багата людскіх слёз, даўкіх і гарачых, ды яшчэ тое-сёе, што колецца, баліць і не дае спакою.**

**Высыпаю перад вамі, спагадлівыя чытачы, скарб, сабраны ў вёсцы Аўцюкі, што ў Калінкавіцкім раёне — вёсцы, якую называюць беларускім Габравам. А вы ўжо самі рашайце: ці плакаць вам, ці смяяцца.**

**Ведаю адно: лепш жартаваць, чым гараваць; пажыві чалавекам, а сабакам быць паспееш. Давайма, людзі, жыць весела і дружна, з міласцю і любасцю адзін да аднаго, бо за пусты смех і пустую жытку давядзецца лізаць вогненную патэльню на тым свеце.**

### Самалётны прыпынак

Рэйсавы самалёт Мінск—Кіеў ляціць над Аўцюкамі. Сцюардэса падбягае да лётчыка:

— Адчыніце люк, двое аўцюкоўцаў хочуць выйсці.

— Э, учора так адчыніў, аднаго выпусціў, а трое ўскочылі...

### Конскі ўпраўляючы

Аўцюковец паехаў у раён, каб узяць патрэбную даведку. У яго пытаюцца:

— Кім працуеш?

— Упраўляючым.

— У вас жа калгас. Кім упраўляеш?

— Канём...

### Грамацей

Аўцюковец — конюх. Лічыць коней. Аднаго не хапае.

Злез з каня. Пералічыў. Усе!

Сеў на каня. Пералічыў — аднаго не хапае.

Як мацюкнецца: "Зноў цыганы каня ўкралі!"

### Каму што

Мнагадзетная, бязмужняя аўцюкоўка прызналася:

— Калі Бог дзяліў розум, я цыцкі выбірала...

### Смех дый годзе

Адзін аўцюк моцна перапіў. Ледзь прыцягнуўся дамоў. Не хапіла сіл да ложка дайсці, зваліўся пад лаву.

Ноччу прачнуўся. Мац, мац — знізу дрэва. Мац, мац — зверху дрэва. Збоку — таксама дрэва. А цёмна — хоць вока выкалі. Падумаў, што ў дамавіне. Як закрычыць не сваім голасам:

— Мамачка, навошта мяне жывога закапала?..

### Галава не булава

Конюху загадалі ўзяць нейкае сацыялістычнае абавязацельства.

Аўцюк доўга думаў і прыдумаў. На вучнёўскім сшытку ў клетачку накрэмзаў:

"Абавязваюся садраць з коней тры скуры, калі будуць лезці ў калгасны агарод".

### Прыкурыў

Пра аўцюкоўца-пастуха баяць такое.

Пасвіў ён кароў ля чыгункі. Скончыліся запалкі, а курыць ахвота, аж вушы трашчаць.

Чухае ў Галявічы цягнік.

Выбег пастух на шпалы, махае белай торбай, крычыць:

— Стой!.. Прыпыніся!..

Убачыў машыніст чалавека на рэйках, тармазнуў, вытыркнуўся з кабіны:

— Што здарылася?..

— Бацечка, дай прыкурыць!..

### Смех бабам сказаць

Адзін дзед меў самагонны апарат. Часцяком да яго заходзіў участковы. Сядуць за стол, пакаштуюць горкага пітва, ледзь песню не заспяваюць. От аднойчы ўчастковы папярэджвае:

— Дзед, будзе вобыск...

Дзед схаваў самагонку. А пад падлогу паставіў буталь з вадой.

Прыехала міліцыя вобыск рабіць. Адзін палез пад падлогу і знайшоў буталь. Пакаштаваў дый кажа:

— Дзед, чаго ты тут ваду паставіў?

— А-а, гэта ж як памерла мая баба ды як памылі яе, то сказалі тую ваду заліць у буталь і захоўваць, як жывы дух.

— Цьфу ты... Маць тваю...

Вобыск на тым і скончыўся.

### Маўчы ды чэрпай

З дзедам-самагоншчыкам была яшчэ адна гісторыя.

У Аўцюкі нечакана ўляцела міліцэйская машына. Зноў вобыск.

Дзед меў некалькі хвілін і вось што змікіціў. Выліў самагонку ў вядро і паставіў на лаву ля печы, дзе заўсёды вада стаіць. Побач кубак павесіў. Будзь ласкавы, калінка, напіся, калі смагу маеш.

Улятаюць да дзеда вобыск рабіць. Усе тайнікі абшарылі, а самагонку не знайшлі.

Паехалі ні з чым. Ды раптам бачыць капітан — шафёра развезла. Язык заплятаецца... Рулюе віхляста.

— Што з табой, браток?.. Дзе паспеў лыкнуць?..

— У дзеда... Зайшоў у хату вады папіць... А яна смачная, халера, як самагонка...

— Круці назад!

Уляцелі ў дзедаву хату. Кінуліся піць з вядра. А там ужо і напраўду калодзежная вада.

— Ну, дзед, ну, пачакай!..

### Таямнічая піла

Купіў аўцюковец бензапілу. Паехаў у лес пілаваць дровы. Возьме бервяно і водзіць па палатне.

Вечарам сусед цікавіцца:

— Колькі напілаваў?

— Мала, адно стаміўся...

— Цікава, у інструкцыі пішуць, што ёю можна лёгка напілаваць дваццаць кубоў у дзень.

Назаўтра панёс аўцюковец бензапілу ў магазін.

— Вы мне няспраўную пілу прадалі.

— Як?! — здзівілася прадаўшчыца і завяла пілу.

Аўцюковец роспачна ўсклікнуў:

— Дык яна яшчэ і заводзіцца?!

### Гультаі

— Колькі ў вас унукаў?

— Трошкі.

— А колькі гэта?

— Шасцёра.

— О!

— Што о, мая калінка! Я адна шасцярых радзіла, а яны — учатырох. Гультаі цяперашнія жонкі!..

### Каб свіння хутчэй расла

Аўцюкоўцы, як і ўсе гомельцы, — салаеды.

Што прыдумалі: каб свіння хутчэй расла, заднія ногі свінні зацэментоўваюць, а карыта з ядой кожны дзень адсоўваюць далей і далей.

### Жывому аб яго смерці

Клыпае да сельсавета дзед. Дaганяю. Чапляюся да яго з роспытам. Атрымліваю адказы, ад якіх халадзее сэрца.

— Як я жыў? Праз адны дзверы ўвайшоў, праз другія — выйшаў...

— А цяпер куды кіруеце?

— Хацеў купіць касцюм на смерць, дык сказалі, трэба даведка, што я хутка памру. От іду ў сельсавет...

### Упартыя куры

— Чаму, суседка, сваіх курэй рэжаш?

— Хай на іх ліха!.. Ганю на калгасныя пасевы, а яны ў свой агарод лезуць...

### Як аўцюковец уступаў у партыю

Адзін аўцюковец, прозвішча называць не будзем, ехаў у райкам уступаць у партыю:

— Мама, здымай ікону.

У райкаме пытаюць:

— Для чаго хочаш быць у камуністычнай партыі?

— Каб не рабіць, а добра жыць, — чэсна прызнаўся аўцюковец.

Не прынялі.

Прыехаў дамоў:

— Вешай, мама, ікону назад!..

### Каму — як балота, а каму — як золата

Хвалілася Арына:

— Ніводнай літары не ведаю, а пела ў царкоўным хоры. Дай грошы — палічу мільён.

Ну, думаю, падсяку гэту сябелюбівую аўцюкоўку:

— А што такое рыначная эканоміка?

— Хэ, калінка, гэта мо як мы ягады прадаём. Па рубліку просім за шклянку. А як чарга — пашэпчамся. І ўжо па два рублікі зрываем. Паняў?..

Не хацелася развітвацца з Арынай, а яна спяшалася.

Спытаў:

— Што скажаце пра сваю вёску?

— Хэ, калінка! Аўцюкі — маленькі Парыж. Некалі спявалі такую прыпеўку:

Я іду, а мне насустрач
Усё масты, масты, масты.
Аўцюкоўская дзярэўня
Лепш за горада Масквы!..

### Як аўцюкоўцы ўкручваюць лямпачку

Адзін узлазіць на стол. Трымаецца за лямпачку. А чацвёра круцяць стол.

### Ну і галава

— Чаму аўцюкоўцы не ядуць гуркі са слоікаў?

— Бо галава не ўлазіць у слоік.

— Чаму аўцюкоўцы не засольваюць гуркі ў бочках?

— Бо як дастаюць гуркі, дык расол у вушы зацякае.

### Хто каго

Чаму аўцюкоўцы садзяць бульбу ноччу?

— Каб каларадскі жук не бачыў, дзе будзе расці бульба.

### Выратаваў бот

Ішоў аўцюк на кірмаш купіць парася на гадоўлю. Зняў боты, падвесіў на кій, перакінуў цераз плячо і шпарыў басанож па шляху. Аж пыл курэў пад нагамі.

Ды раптам заглядзеўся, разявака, на баб, якія жалі жыта. А тут камень падвярнуўся на дарозе. Аўцюк я-як урэжацца босай нагой аб камень, ажно іскры пасыпаліся з вачэй. Злупіў з пальца кіпець, кроў хлешча. А ён радуецца:

— От шчасце, што ішоў босы, а то б дзедаў бот расквасіў...

### Раней і цяпер

Раней паснедаеш, не перахрысцішся, то дзед — лыжкай у лоб.

Цяпер мацюкамі хрысцяцца.

Раней спяваюць — за пяць кіламетраў чуваць.

Цяпер плачуць — ніхто не чуе.

### Нічыйны кабан

Аўцюковец кажа суседу:

— Бачыш, у канцы агарода ходзіць нічыйны кабан. Пайшлі заб'ём яго.

Прыхапілі доўбні, паляцелі ў канец агарода. Прыбілі нічыйнага кабана. Свяжуюць.

А жонка таго аўцюкоўца ўвесь вечар ходзіць па вуліцы, шукае кабана, маніць:

— Дзю, дзю, дзю...

### Як аўцюковец точыць нож

Каб добра натачыць нож, аўцюковец ўсцягвае на гару кола-тачыла. Спускае з гары тое кола. А сам бяжыць следам і трымае нож на тачыле. Кажуць, вельмі ж востры нож атрымліваецца.

### Як аўцюкоўцы дояць карову

Калі жонка едзе куды-небудзь, аўцюковец запрашае суседзяў, каб падмаглі даіць карову.

Гаспадар прысядае з даёнкай, трымаецца за саскі. А два суседы падымаюць-апускаюць каровін азадак.

### Нясвежая гарэлка

Аўцюковец купіў самагонкі дый напіўся. Праспаўся, прыходзіць да суседкі:

— Слухай, Арына, чаго ты мне гарэлку нясвежую прадала?

— Што прыдумаў, калінка?

— Учора бутэльку выпіў, дык вельмі ж муціла.

### Каб сфатаграфавацца...

Едзе камісія ў Аўцюкі. Бачаць, аўцюк яму капае. Цікавяцца:

— Навошта табе яма летам?

— Дык трэба сфатаграфавацца.

— А яма навошта?

— Дык сказалі ж зняцца па пояс.

Пабыла камісія ў вёсцы. Едуць назад. Той аўцюк другую яму капае.

— Навошта табе дзве ямы?

— Дык сказалі ж дзве фоткі трэба.

***

— Што новенькага ў клубе?

— Новы замок!

***

На яду — мастак. А на працу — так-сяк.

### Разгневаны доктар

Аўцюковец лячыўся ў раённай бальніцы. Абяцаў доктару:

— Калінка, як падымеш мяне на ногі — дам парася.

Доктар пастараўся і вылечыў аўцюкоўца.

Праз нейкі час яны сустракаюцца на вуліцы.

— Пацыент, што ты мне абяцаў? — нагадаў доктар.

— Вядома, калінка, я не забыўся, што абяцаў. Але ж і парася выздаравела...

### На прыёме ў фельчара

Фельчар паслухаў, агледзеў старога аўцюкоўца і кажа:

— Дзед, сала табе няможна есці, мяса — нельга, каўбас — нельга. Выпіваць — нельга...

Дзед слухаў, слухаў ды прыпыняе фельчара:

— Калінка, а бульбу можна есці?

— Можна.

— От, добра, у мяне толькі бульба і ёсць...

Дзеду Мішу — дзевяноста. У яго — пяцёра дзяцей. Усе прыляпіліся ў горадзе. А дзед дажывае гады ў адзіноце, у мілых сэрцу Аўцюках.

### Выйшаў замуж

— Цётка, як твой Саша жаніўся?

— Вой, калінка, мой Саша не жаніўся, а замуж выйшаў.

Так аўцюковец стаў прымаком.

Прымаку кажуць:

— Вёска гарыць!

— Няхай гарыць. Я ў суседнюю выйду замуж.

### Пажартавалі — пабіліся

— Ты куды?

— Туды. А ты?

— Адтуль.

— Ты ад каго?

— Ад яе. А ты?

— Да яе!

Пажартавалі. А пасля — пабіліся. Як праяснілася, аўцюкоўцы хадзілі да адной маладзіцы.

### Трактар паваліўся

П'яны аўцюк перакуліў трактар. Выпаўз з-пад жалеззя. Дайшоў да тэлефона. Звоніць старшыні:

— Бацька, трактар паваліўся... Трактар няспраўны... Ахвяр няма...

### У лазні

Як аўцюкоўцы мыюць спіну?

Намыльваюць сцяну і труцца спінай, пакуль чыстай не стане.

### Як вараць юшку?

Калі аўцюкоўцам хочацца юшкі, яны едуць на возера. Раскладваюць вакол возера кастры.

Усе падтрымліваюць агонь, а адзін у лодцы плавае па возеру і вяслом памешвае ваду.

Пасля, як усе, п'юць і закусваюць.

### Запрашэнне

Ходзіць аўцюк па вёсцы, запрашае на вяселле. Усіх папярэджвае:

— Нічога не бярыце з сабой. Толькі бутэльку гарэлкі і сто рублёў...

### Пажадай здароўя

Аўцюковец-шафёр падвёз чалавека. Той дае грошы. Шафёр усміхаецца:

— Калінка, не трэба мне тваe грошы. Пажадай маім дзецям здароўя!

### Хто дурань?

Два аўцюкоўцы паспрачаліся, каго можна называць дурнем.

— Дурань — гэта чалавек, які выказвае свае думкі так, каб іншыя яго не зразумелі. Паняў мяне?

— Не-а, — адказаў сусед.

**Якім бы цяжкім ні было наша сённяшняе жыццё — давайце на хвіліну забудзем пра зацятыя палітычныя баталіі, шматлікія бытавыя клопаты і непрыемнасці... Давайце згадаем, што менавіта сёння ўсё прагрэсіўнае чалавецтва, у якога яшчэ не атрафіравалася пачуццё гумару, па даўняй традыцыі святкуе Дзень смеху.**

**А дапаможа вам усміхнуцца пісьменнік Уладзімір Ліпскі, чый гумарыстычны твор мы сёння друкуем.**

### Новыя і старыя боты

Аўцюковец заказаў у гарадскога шаўца боты. Прыехаў забіраць абутак, а шавец і кажа:

— Браток, тыдні два твае боты могуць крыху ціснуць. Не крыўдуй.

Аўцюковец усміхнуўся:

— Э, калінка! Нічога, пацярплю. Два тыдні я і ў старых пахаджу, а новыя хай пастаяць.

### Размова пра дачок

Аўцюкоўка сустрэла ў горадзе сваю даўнейшую сяброўку. Загаварылі пра дачок. Гарадская дый кажа:

— Мая такая фарсістая — пераапранаецца на дзень мо разоў пяць.

— Гэта што, — махнула рукой аўцюкоўка. — Мая пераапранаецца на дзень мо дваццаць пяць разоў.

Гараджанка дзівіцца:

— Маёй семнаццаць гадоў, а тваёй колькі?

— Маёй — сем месяцаў!..

### Замест "дзякуй"

Аўцюковец на рэчцы спаткаў незнаёмца і кажа:

— Гэта вы майго сына выцягнулі, калі ён тапіўся?

— Я, — адказаў незнаёмец і чакаў пахвалы.

— А дзе ж ягоная шапка? — строга спытаў аўцюковец.

### Пудра з камянёў

— Што робіш, дзядзька?

— Не бачыш, камяні збіраю.

— Навошта яны табе?

Аўцюковец змікіціў, што прахожы з яго насміхаецца... Сур'ёзна адказвае:

— Няўжо не чуў, калінка? Іх нарыхтоўшчыкі зараз з рук вырываюць, толькі давай.

— Ты што?!

— Ага, калінка, у горадзе камяні мелюць і вырабляюць пудру.

Прахожы пачаў бегаць па палетку і збіраць камяні.

### Антон і Антоля

Закончылася вечарынка. Антон праводзіць Антолю дамоў. Селі на лаўку ля Антолевай хаты. Антон палез цалавацца:

— Не чапай! — крычыць дзяўчына, каб маці чула, а хлопцу шэпча: — Чапай, чапай...

Другі вечар селі на лаўку, Антон і кажа:

— Што б ты, Антоля, зрабіла, каб я цябе пацалаваў?

— Крычала б: мама, мама!..

— Ну, а калі б я яшчэ штонебудзь зрабіў?

— Нічога, бо мамы дома няма...

### У кожнага свая асечка

Аўцюковец фатаграфаваў нябожчыка. Навёў апарат, даў каманду:

— Не варушыцеся!..

### Вярнуўся з курорта

Ганарліва ходзіць Іван — пабываў на курорце. Першы раз так далёка ездзіў з Аўцюкоў. Аж да самага сіняга мора.

Калі мужчыны збіраюцца ля яго лаўкі, прыдумляе ўсё новыя і новыя курортныя прыгоды.

Аднойчы сусед задаў яму пытанне на засыпку:

— Ваня, а сам ты бабу там пайме́ў?

— Пачці што!..

З таго часу ўсе падтрунькваюць над вясковым курортнікам:

— Скажы, калінка, як было "пачці што"?..

### Пашкадаваў сала

Аўцюкоўцаў, як і дурняў, любіць праца. Але ёсць і хітрыя.

Адзін аўцюк наняўся касіць у багатага. Просіць:

— Дай, бацька, наперад сала, каб каса касіла.

Гаспадар даў кавалак сала. Аўцюк пайшоў у луг, з'еў сала, паляжаў, вечарам вярнуўся дый кажа:

— Дай, бацька, яшчэ сала, каб трава не ўстала.

Гаспадар адмовіў, тады аўцюк нагавор прыдумаў:

— Не даеш сала — каб трава ўстала!

Прыходзіць раніцай гаспадар на луг, а трава стаіць някошаная. Пачухаў патыліцу:

— Дарэмна пашкадаваў сала.

### Як ловяць клапоў?

Няма такой блыхі, каб аўцюк не злавіў. Самую вёрткую дагоніць. Самую кусlівую перахітрыць.

А як у Аўцюках ловяць клапоў?

Пад шафу ставяць гліняную міску з мукой. Клапы залазяць туды. У гэты час аўцюк хуценька спілоўвае ножкі ў шафе. Яна грузна апускаецца і давіць шкоднікаў.

### Дзіўны гаішнік

Аўцюк выбіўся ў гаішнікі. Стаіць на шашы, правярае машыны, сочыць за парадкам.

Прыпыняе замежную легкавушку з паветранымі тармазамі. Машына ля яго стала, клапаны адкрыліся, паветра выпускаецца, як бы машына з палёгкай уздыхае.

Аўцюк запрасіў правы, доўга разглядваў, прычапіцца няма да чаго дык ён і кажа:

— Каб болей не пшыкаў на дарозе.

Вярнуў правы. Другую машыну тармазнуў.

— А ў цябе чаму не пшыкае?

— Машына іншая.

— Правы!

Шафёр бачыць: нейкі дзіўны аўтаінспектар. Падае яму не правы, а прафсаюзны білет. Аўцюк гартаў, гартаў ды раптам кажа:

— Добра, дзірку прабіваць не буду, але маркі за год пазрываю.

### Не зразумелі

Едзе аўцюковец па Рэчыцы. У кабіне дзяўчына. Адной рукой трымаецца за абаранак, другой — дзяўчыну абдымае.

Міліцыянер прыкмеціў амурнага вадзіцеля, робіць яму заўвагу:

— Дзвюма трэба!

Аўцюковец галаву высунуў з кабіны, адказвае:

— Сам ведаю, што дзвюма трэба, дык чым жа руляваць буду.

### Хочаце — верце, хочаце — не

Шафёр-аўцюк едзе з дому вельмі хутка. Назад — вельмі павольна. Чаму?

Уперад — чатыры хуткасці. Назад — адна.

### Без прычыны і хвост не матляецца

Аўтаінспектар наганяе машыну з Аўцюкоў, якая вязе кароў на мясакамбінат. Пыл на дарозе, што пясочная бура ў пустыні. Уключыў мегафон, дае каманду:

— Вадзіцель!.. Вазьмі ўправа!..

Некалькі разоў паўтарыў просьбу.

Раптам машына тармозіць. Шафёр выскаквае з машыны, бяжыць у лес.

Аўтаінспектар — за ім. Дагнаў.

— Чаму ўцякаеш?

— Думаў, што карова загаварыла.

— Твая пуцёўка?

— Каб у мяне была пуцёўка, я на Чорным моры загараў бы.

— Твае правы?

— Каб у мяне былі правы, я б не кароў вазіў.

— Ты п'яны?

— Каб быў цвярозы, хіба б уцякаў?..

### Лянота

Аўцюковец даклыпаў да раённага доктара. Той пытае:

— Што баліць?

— Усё!

— О, гэта вельмі небяспечная хвароба.

— Доктар, скажыце пра маю хваробу па-простаму, каб я ўцяміў.

— Лянота.

— А цяпер, доктар, скажыце павучонаму, каб мая баба не зразумела.

### Ледзь не ўтапіўся

На самым беразе ракі Закаванкі стаяла некалі старая вярба. От аўцюковец палаяўся за нешта з жонкай, пайшоў вешацца.

Замацаваў за галіну вяроўчыну, зрабіў пятлю, усунуў туды галаву і гайдануўся. Галіна не вытрымала, трэснула і абарвалася разам з чалавекам у раку.

Аўцюковец вылез з ракі і пачаў усім расказваць:

— От, калінка, праз гэта павешанне дык ледзь не ўтапіўся.

### У цырульні

Зайшоў аўцюк пагаліцца ў гарадскую цырульню.

— Часам, чалавек, ці не ў вас я падгольваўся апошні раз?

— Я тут працую другі год, вас не помню.

Сеў аўцюк у крэсла, разглядвае сябе ў люстэрка, як бы ніколі не бачыў. А цырульнік крутнуўся вакол яго і не стрымаўся ад здзіўлення:

— Эх, карак!.. От, карак!.. Вось гэта дык карак!.. Адкуль ты, дзядзька?..

— Скуль?.. З Аўцюкоў!.. Няго ж не чуў пра нас?.. А карак у мяне такі, братка, бо сала багата ем, — пачаў хваліцца аўцюк.

Цырульнік адбрыў яго:

— Ды карміся, дзядзька, хоць ікрой заморскай, але зрэдку шыю мый.

### Куры худыя

Судзяць аўцюкоўца. Лазіў ноччу па хлявах, хапаў у мех сонных курэй.

— Падсудны, — звяртаецца суддзя да аўцюкоўца, — растлумачце нам. Вы сказалі, што адной ноччу хадзілі ў Сцяпанаў хлеў двойчы. Узялі там тры куры, а праз нейкі час аднеслі іх. Мусіць, у вас прачнулася сумленне?

— Не, калінка, куры былі худыя.

### Вынаходзец

Аўцюк вырашыў перахітрыць усіх вясковых самагоншчыкаў. Прыдумаў свой метад, як найхутчэй перадаць алкаголь спажыўцу.

З'еў паўпачка дражджэй, кіло цукру, напіўся ўволю цёплай вады. І пачаў чакаць, калі гарэлка завесяліць яго.

Суседзі прыкмецілі і захваляваліся: чаму чалавек другі дзень не выходзіць на вуліцу? Узламалі дзверы і бачаць дзіўны малюнак: сядзіць дзядзька на вядры, а галава яго закручана дротам аж да плячэй.

— Што з табой, калінка?

— Дно ўзарвала. Баюся, каб крышку не рванула...

### Просьба

— Сусед, не будзь свіннёй, пазыч да заўтра пачак махоркі.

— Хай табе, калінка, пазычыць кабан.

### Толькі аднаго...

Да аўцюкоўца пастукаліся ноччу.

— Пусціце пераначаваць.

— Хто вы?

— Я — шафёр... Вадзіцель... Механік... Разумееце?

Аўцюковец на хвіліну задумаўся, пасля адказаў:

— Магу пусціць толькі аднаго...

### Сабака не вінаваты

Аўцюковец прыйшоў са скаргай да суседа.

— Слухай, калінка, твой сабака задушыў і з'еў маіх двух куранят.

— Добра, што сказаў, я сёння яму есці не дам.

### Гузак і сіняк

Жанчыны ў Аўцюках не цярпяць мужчынскай здрады. Калі што, перападзе і свайму, і чужому.

Тут помняць аднаго небараку, які доўга хадзіў з вялізным гузаком на галаве.

— Хто цябе, калінка, так узнагародзіў?

— Родная жонка, калі даведалася пра сваю намесніцу...

Праз нейкі час людзі прыкмецілі ў таго ж дзядзькі сінякі пад вачыма. Зноў перад вяскоўцамі трэба трымаць справаздачу.

— Сінякоў насадзіла запасная жанчына, калі даведалася, што ёсць у мяне жонка.

Маеш галаву, то май і розум.

## Праграма тэлеперадач

**Чацвер, 1 красавіка**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.15.** Фільм-канцэрт.
**9.25.** "Мачыха".
**10.15.** "Пяць зорак".
**11.15.** "Жыццё і слёзы, і любоў..."
**12.00.** "Еўразія": мультфільм.
**12.10.** "Вечарынка".
**13.10.** Рэйтынг.
**13.30.** Навіны.
**13.40.** "Бярозавыя галасы". Дак. фільм.
**14.40.** "Дзіна". Маст. фільм.
**16.05.** Беларуская літаратура. 9-ы клас.
**16.40.** "На лядовай арэне". Фільм-канцэрт.
**17.10.** Для дзяцей. "Аднойчы 1-га красавіка".
**17.45.** Будні вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш".
**18.30.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** Здароўе.
**19.45.** "Фатаграфія 9x12". Кампазітар Сяргей Герута.
**20.15.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** "Мачыха".
**22.25.** Дайджэст.
**23.55.** НІКа.
**0.10.** На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — Тэлебіржа.

**Канал "Астанкіна"**

**10.05.** ...Да 16 і старэйшым.
**10.50.** Прэс-экспрэс.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** "Вяселле старэйшага брата". Маст. фільм.
**12.25.** Дак. фільм "Суцiш мой смутак".
**12.45.** "Жыццё спачатку". Маст. фільм.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** Рамансы С.Рахманінава выконвае І.Архіпава.
**15.45.** "КААДП". Мультфільм.
**16.05.** Шмат музыкі.
**16.45.** ...Да 16 і старэйшым. У перапынку (17.00) — Навіны.
**17.55.** Азбука ўласніка.
**18.05.** Надвор'е.
**18.10.** Маст. фільм "Не на сваім месцы" ("Містэр Піткін у тыле ворага".(Вялікабрытанія).
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Лато "Мільён".
**21.10.** Аншлаг! Аншлаг!
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Радыё "Труба".
**23.55.** Прэс-экспрэс.
**0.05.** Футбол. На шляху да Уэмблі.

**Канал "Расія"**

**7.55.** Студыя "Нотабене".
**8.50.** Вольны час.
**9.05.** Залатая шпора.
**9.35.** Бескарысныя ўрокі.
**10.05.** Студыя "Сатырыкон". Раман Карцаў.
**11.00.** "Санта-Барбара".
**11.50.** "Быць качцы ці не быць", "Дафі-дыверсант". Мультфільмы (ЗША).
**12.10.** "Мы з МЭІ".
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.25.** Настальгічныя вячоркі.
**13.55.** На прэм'еры спектакля "Жаніцьба Фігара" ў Ленкоме.
**14.55.** Алгарытмы.
**15.25.** Там-там навіны.
**15.40.** Штрыхі да партрэта.
**16.25.** Маленькія музычныя вечары.
**17.15.** "Каралі смеху".
**17.45.** Парламенцкі веснік.
**18.00.** Першакрасавіцкая прэм'ера. "Вас запрашае Леанід Трушкін".
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.25.** "У яблычак". Кінакамедыя (ЗША).
**20.55.** Джэнтльмен-шоу.
**21.45.** "Ачакачы". Мультфільм для дарослых.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Зоркі гавораць.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** "Кліпавая алея".
**22.45.** На сесіі ВС Расіі.
**23.15.** Шоу Піліпа Кіркорава. 2-е аддзяленне.

## Тэатры

**1—2 красавіка**

**Пачатак у 19.00**

**ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА**

1 красавіка — прэм'ера спектакля-баля "На нашай сцэне — аперэта".

2 красавіка — "Жызель".

Балетныя спектаклі, аб'яўленыя на 28 сакавіка, адмяняюцца. Білеты прымаюцца ў касе тэатра па 2 красавіка.

**ТЭАТР-СТУДЫЯ КІНААКЦЁРА**

1—2 красавіка — прэм'ера **"Басаногі ў Афінах".**

**ТЭАТР ЛЯЛЕК**

1 красавіка — **"Боская камедыя"** (для дарослых).

**БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІЯ**

**(канцэртная зала)**

1 красавіка — **музыканты і мастакі ўсміхаюцца.** Струнны квартэт **"Забытыя мелодыі".** Ансамбль **"Калаж".** Салістка — **Т.Громава** (сапрана). Музыказнаўца — **І.Шэйхатовіч.** Мастацтвазнаўца — **А.Ойстрах;**

**(зала камернай музыкі)**

1 красавіка — **канцэрт камернай музыкі. П.Кандрусевіч** (альт), **А.Аляксеева** (фартэпіяна, клавесін). У канцэрце прымае ўдзел: **А.Рудніцкі** (арган). У праграме: Пёрсел, Персікеці, Брыттэн, Бенджамін.

2 красавіка — **канцэрт арганнай музыкі. Л.Тарнапольскі** (Днепрапятроўск). У праграме: Бах, Мендэльсон, Франк, Смірноў, Каспараў, Губайдуліна.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Рэкламнае бюро — 29-34-05, 27-33-96; факс — (0172) 27-37-63.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Лісты чытачоў друкуюцца на мове арыгінала. Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя "Народнай газеты" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы.

Рэдакцыйныя тэлефоны: грамадская прыёмная — 29-60-86; прыёмная галоўнага рэдактара — 29-60-08; намеснікі галоўнага рэдактара — 29-69-04, 29-64-21, 27-22-16; юрыдычнае бюро — 29-69-68; карэктура — 29-62-12; стыльрэдактар — 29-64-04; мастак — 20-62-43; бухгалтэрыя — 29-60-21, 29-67-23; бізнес-бюро — 29-65-50.

Аглядальнікі па пытаннях дзейнасці: парламента рэспублікі, грамадска-палітычных арганізацый і рухаў — 29-66-04; урада рэспублікі — 29-68-12; мясцовых Саветаў — 29-61-56; дзяржаўных органаў — 29-64-78; аграрнай палітыкі — 29-60-42; экалогіі, ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі і НТП — 20-41-82; сацыяльнай пераарыентацыі эканомікі — 20-52-65;сацыяльнай пераарыентацыі сферы абслугоўвання — 29-69-68; сацыяльнага вывучэння грамадскай думкі і аналізу пошты — 29-68-03; культуры і нацыянальнага адраджэння — 29-61-56; маралі і права — 29-69-87, 29-61-76; сацыяльнай абароны асобы — 29-69-87; аператыўных падзей, фізкультуры і спорту — 20-83-97; палітычны каментатар — 29-65-01.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Брэсце —42-49-35; у Віцебску — 5-12-12; у Гомелі — 55-81-05; у Гродне — 45-35-61; у Магілёве — 26-35-38; у Маскве — 365-16-44.

Адрас рэдакцыі: 220010, Мінск, Дом урада.

Індэкс 63868

Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.

Падпісана ў друк у 19.10.

Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва"Беларускі Дом друку".

Спосаб друку — афсетны, фармат А-2

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

